# Права на волю

№23(71)
Сьнежань 2000

Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна"





Мінск, 10 сьнежня 2000 году...

## Каб ведалі і памяталі...

**10 сьнежня ў 15 гарадах Беларусі няўрадавыя арганізацыі адзначылі 52-я ўгодкі абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Асноўнай мэтай акцыі было прыцягненьне ўвагі грамадзкасьці да праблемы зьнікненьня людзей у краіне.**

У Мінску адзначэньне чарговых угодкаў абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека пачалося а 12 гадзіне на прасьпекце Ф.Скарыны ад станцыі метро "Кастрычніцкая" да плошчы Незалежнасьці. У мерапрыемстве прынялі ўдзел родныя зьніклых беларускіх грамадзянаў, прадстаўнікі праваабарончых арганізацыяў, палітычных партыяў і рухаў – усяго каля 150 чалавек.

Удзельнікі мерапрыемства былі апранутыя ў своеасаблівыя накідкі, на якіх на адным баку было напісана: "10 сьнежня – Дзень правоў чалавека", а на другім зьмяшчаліся партрэты зьніклых – Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, Дзмітрыя Завадзкага, Анатоля Красоўскага. Падчас гуляньняў раздаваліся брашуры з тэкстам "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека". Арганізатарам мерапрыемства выступіла Грамадзкае аб'яднаньне "Праваабарончы цэнтр "Вясна".




Акцыя праходзіла без асаблівых эксцэсаў, але не абышлося без затрыманьняў. Так, у 12.30 каля гатэля "Мінск" былі затрыманыя ***Юрась Зянковіч і Сяргей Скамейка***. Супрацоўнікі міліцыі, якія затрымлівалі хлопцаў, патлумачылі ім, што зроблены разбойны напад на кватэру, і іх затрымліваюць па падазрэньні ў зьдзяйсьненьні гэтага злачынства. Затрыманых павезьлі ў Маскоўскі РУУС, дзе склалі пратакол выняцьця накідак (у абодвух былі накідкі з выявамі Віктара Ганчара), а

*(Працяг на стр. 2)*

## Хроніка

**_1 сьнежня_ сябры Слуцкай філіі ГА ПЦ "Вясна" _М.Гуткоўскі і С.Гупаловіч_ падалі заяўку на правядзеньне пікету 10 сьнежня (дзень абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека). На сваю заяўку праваабаронцы атрымалі адказ:**

**"У адпаведнасьці з Законам РБ "Аб сходах мітынгах, вулічных шэсьцях, дэманстрацыях і пікетаваньні" і рашэньнем гарвыканкаму ад 11.11.98 году (выпіска нумар 32 з пратаколу 22):**

**1. Дазволіць грамадзянам Гуткоўскаму М. і Гупаловічу С. правядзеньне пікету 10.12.2000 году на гарадзкім стадыёне аддзелу адукацыі.**

**2. Лічыць адказнымі за выкананьне вызначанага парадку пры арганізацыі пікету і забесьпячэньні мераў бясьпекі Гуткоўскага М. і Гупаловіча С.**

**3. У адпаведнасьці з Палажэньнем "Аб парадку аплаты выдаткаў, зьвязаных з правядзеньнем масавых мерапрыемстваў у г.Слуцку ў тэрмін да 07.12. 2000 года выканаць аплату выдаткаў, зьвязаных з аховай грамадзкага парадку, арэндай стадыёну ў памеры 6 мінімальных заробкаў. Дакументы, якія пацьвярджаюць аплату, прадставіць у выканкам да 07.12.2000 году (каб. 519). Пры непрадстаўленьні дакументаў, пацьвярджаючых плату, правядзеньне пікету 10 сьнежня 2000 году забараніць."**

**Такім чынам, слуцкія ўлады абавязалі праваабаронцаў аплаціць "працу" міліцыянтаў па "ахове парадку" падчас пікету. Такога ў навейшай гісторыі Беларусі яшчэ не было.**

*(Працяг на стар. 6)*

# Каб ведалі і памяталі...

(Пачатак на стар.1)

таксама ўзялі тлумачальныя, чаму яны ў гэты час знаходзіліся на прасьпекце. Усяго хлопцаў пратрымалі каля дзьвюх гадзінаў і адпусьцілі.

Падчас мерапрыемства назіраліся неаднаразовыя спробы затрыманьня яго ўдзельнікаў. Так, напачатку мерапрыемства, у 12 гадзінаў пры выхадзе з метро "Кастрычніцкая" была спроба затрыманьня старшыні ПЦ "Вясна" ***Алеся Бяляцкага***. Каля кінатэатру "Цэнтральны" супрацоўнікі міліцыі ў цывільным запатрабавалі ад двух маладых людзей, якія гулялі па прасьпекце ў накідках, прад'явіць дакументы. Паколькі побач прысутнічала шмат журналістаў, пасьля праверкі пашпартоў супрацоўнікі міліцыі былі вымушаны адпусьціць хлопцаў. Была затрыманая сябар АГП ***Людміла Бажок***. Жанчыну пасадзілі ў міліцэйскую машыну, але паколькі падставаў для затрыманьня не было, яе адпусьцілі. Яшчэ адна спроба затрыманьня ўдзельнікаў мерапрыемства была зьдзейсьненая на рагу вуліцы Валадарскага, але грамадзяне, на вачах якіх гэта адбывалася, абаранілі маладых людзей.

**У Брэсьце** 5 чалавек былі затрыманыя падчас пікету, прысьвечанага чарговым угодкам абвяшчэньня Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека.

Усяго ў Брэсьце было пададзена пяць заявак на правядзеньне пікетаў у людных месцах гораду. Гарадзкія ўлады прапанавалі чатыром заяўляльнікам далучыцца да Васіля Барболіна (арганізатара аднаго з пікетаў) і правесьці супольны пікет на стадыёне "Будаўнік".

Заяўляльнікі, якім адмовілі ў правядзеньні пікетаў (А.Дыдышка, У. Вялічкін, Р.Антанюк, Р.Варвашэвіч), палічылі, што гарвыканкам парушыў іх грамадзянскія правы, гарантаваныя арт.арт. 33,35, 58 Канстытуцыі РБ, і выйшлі на несанкцыянаваны пікет каля ЦУМу. Там яны прастаялі з 11.30 да 12.30. Пасьля пачаліся затрыманьні. Сярод затрыманых: ***Уладзімір Вялічкін, Сяргей Бахун, Алег Дыдышка, Яўген Беласін, Кірыла Данько***. Затрыманыя былі дастаўленыя ў РУУС Ленінскага раёну г.Брэста, дзе на іх былі складзеныя пратаколы адміністратыўнага затрыманьня. Пасьля гэтага начальнік РУУС Ленінскага раёну г.Брэста Касьцючык загадаў пакінуць усіх затрыманых да суда ў аддзяленьні. Такім чынам, брэсцкім праваабаронцам давялося правесьці ноч на нарах.

**У Барысаве** пікет праходзіў з 11.30 да 12.30. У ім прынялі ўдзел 15 чалавек, якія раздавалі тэксты "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека", бюлетэнь "Права на волю", "Агляд-Хроніку парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі за 1999 год". У 12.30 пачаліся затрыманьні, якія праводзілі супрацоўнікі міліцыі з аўтаматамі. Былі затрыманыя ***Зьміцер Бародка*** (старшыня Барысаўскай філіі ГА ПЦ "Вясна") і ***Анатоль Аскерка***. Пратаколы не былі складзеныя, удзельнікаў пікету пратрымалі 30 хвілінаў, "правялі размову" і адпусьцілі.

**У Віцебску** 10 сьнежня былі затрыманыя 4 чалавекі. Затрыманьне адбылося каля помніка Еўдакіі Лось. Затрымлівалі людзі ў цывільным. Пікетоўшчыкаў зацягнулі ў машыну і даставілі ў РУУС Чыгуначнага раёну г.Віцебска, дзе на іх былі складзеныя пратаколы па арт. 167.1 ч. 2 КаАП РБ – арганізацыя несанкцыянаванага пікету. Сярод затрыманых:

1. ***Алена Залеская***
2. ***Сяргей Васенка***
3. ***Анатоль Захараў***
4. ***Дзяніс Мускоў.***

**У Гародні** з 11 да 13 гадзінаў адбыліся тры санкцыянаваныя пікеты з нагоды Дня правоў чалавека. Заяўлена было чатыры, але адзін з пікетаў быў забаронены, а яшчэ адзін быў беспадстаўна перанесены з цэнтральнай плошчы гораду ў менш людное месца.

Адзін з пікетаў адбыўся ў мікрараёне Фарты. У ім прынялі ўдзел 8 чалавек. У пікеце каля Дому сувязі ўдзельнічала 20 чалавек, а каля кінатэатру "Кастрычнік" – больш за 30.

Удзельнікі пікетаў раздавалі гарадзенцам тэксты "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека", улёткі з інфармацыяй пра стан правоў чалавека ў Беларусі. Таксама былі прадстаўленыя фотаматэрыялы з сюжэтамі, якія адлюстроўвалі перасьлед гарадзенцаў, што выступаюць за захаваньне правоў чалавека (суды над удзельнікамі масавых акцыяў пратэсту і інш.).

Пікеты 10 сьнежня прайшлі без затрыманьняў.

Але арышты адбыліся напярэдадні — 9 сьнежня, калі на вул. Савецкай моладзь правяла несанкцыянаваны пікет у абарону правоў чалавека. У пікеце прынялі ўдзел 8 чалавек з плакатамі "Студэнты супраць дыктатуры", "Маем права на людзкае жыцьцё", "Маем права на свабоду". Пікет працягваўся 30 хвілінаў, быў спынены супрацоўнікамі міліцыі, якія затрымалі пяць чалавек. Былі затрыманыя чатыры ўдзельнікі пікету і адзін выпадковы гарадзенец. На намесьніка старшыні "Маладой Грамады" ***Сьвятлану Нех*** і старшыню студэнцкага прафсаюзу ***Дзяніса Міхальчыка*** складзеныя пратаколы за ўдзел у несанкцыянаваным пікеце. Сярод затрыманых была карэспандэнтка газеты "Пагоня" ***Алеся Сідлярэвіч*** і грамадзянін Польшчы, прадстаўнік польскай партыі сацыялістаў, якога абшукалі і засьвяцілі стужку ў фотаапараце.



Мінск, 10 сьнежня 2000 году...

Фота "ПнВ"

**У Маладэчне** ў гарадзкім парку прайшоў мітынг арганізаваны ГА ПЦ "Вясна", у якім прынялі ўдзел 200 чалавек. Прысутным былі раздадзеныя тэксты "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека" і незалежная прэса. На мітынгу выступілі ***Алесь Капуцкі*** (ГА ПЦ "Вясна"), ***Эвард Балачук*** (БХК), ***Вячаслаў Сіўчык*** (БНФ "Адраджэньне"), ***Нэлі Шлойда*** ("Народная Грамада").

**У Баранавічах** з 12 да 14 гадзінаў у Маладым парку адбыўся санкцыянаваны пікетз нагоды гадавіны абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, пікет арганізаваны ГА ПЦ "Вясна, у якім прынялі ўдзел каля 10 чалавек. На акцыі раздаваліся тэксты "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека", праваабарончыя бюлетэні "Права на волю" і іншыя незалежныя выданьні.

**У Кобрыне** гарадзкія ўлады далі дазвол на правядзеньне пікету ў цэнтры гораду ў скверы Марозава. ГА ПЦ "Вясна" праводзіла пікет з 14 да 16 гадзінаў, у якім прынялі ўдзел 22 чалавекі (прыкладана ж столькі было супрацоўнікаў міліцыі, якія назіралі за яго правядзеньнем). Удзельнікі пікету раздавалі кобрынцам тэксты "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека".

На афіцыйным узроўні Дзень абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ў Беларусі ня быў адзначаны ніяк. Хоць пра тое, што ўлады не забыліся на гэтую дату, сьведчыць той факт, што 10 сьнежня па Беларускім тэлебачаньні былі паказаныя кадры з чалавекам, які дэманстратыўна рве Дэкларацыю і кідае ў сьметніцу...

**Інфармацыйны аддзел ГА ПЦ "Вясна".**

# Анатоль ПАЎЛАЎ: "Правы ёсьць там, дзе за іх змагаюцца..."

***Сёлетняя восень стала адметнай яшчэ і тым, што ўсё больш грамадзянаў Беларусі пачалі адкрыта выказваць сваё незадавальненне эканамічнай і палітычнай сітуацыяй у краіне. Выкладчыкаў ВНУ, настаўнікаў школаў, выхавацеляў дзіцячых садкоў у іх барацьбе за свае права на нармальны заробак і нармальныя ўмовы працы падтрымаў галіновы прафсаюз. Наш суразмоўца Анатоль Васільевіч Паўлаў год таму быў абраны старшынёй Мінскай гарадзкой арганізацыі прафсаюзу работнікаў адукацыі і навукі, і з 1 студзеня 2000 году прыступіў да выкананьня сваіх абавязкаў. Першы год ягонай працы выдаўся няпростым...***



Анатоль ПАЎЛАЎ

***— Анатоль Васільевіч, вашая пасада выбарная. Колькі чалавек, так бы мовіць, стаяць за сьпіной у старшыні гарадзкой арганізацыі?***

— Гарадзкая арганізацыя прафсаюзу работнікаў адукацыі і навукі ў Мінску налічвае 115 000 сяброў. Гэта выкладчыкі і студэнты ВНУ, работнікі школаў, дашкольных установаў, уключаючы тэхнічны персанал...

***— Як складаюцца ўзаемаадносіны прафесійных саюзаў з адміністрацыямі навучальных установаў?***

— Часта прафсаюзы спрабуюць аддзяліць ад адміністрацыі і нават пасварыць. Я ж лічу, што калі ўявіць сабе адукацыю як лодку,што гайдаецца ў акіяне нашай эканомікі, дык два вяслы яе гэта і ёсьць адміністрацыя ды прафсаюз. Каб выплыць, яны павінны грабці ў адным накірунку.

Але ж ня ўсё і незаўсёды залежыць ад адміністрацыі і прафсаюзаў. Зьмены павінны адбыцца як у сьвядомасьці шараговых сяброў прафсаюзаў, так і ў сьвядомасьці прафсаюзных дзеячаў. Прафсаюзныя кіраўнікі павінны зразумець, што заробак ім плоціць не дзяржава, а тыя шараговыя працаўнікі, якія даверылі ім абараняць свае інтарэсы. Шмат для каго такая пераарыентацыя зьяўляецца праблемай. Няпроста было і мне. Я прайшоў праз усе ступені "савецкага" выхаваньня: ад акцябронка да члена КПСС. Ідэалагічная апрацоўка тады была даволі моцнай і цяпер пазбаўляцца ад "сацыялістычных" комплексаў дастаткова цяжка.

Галоўнае, каб адбыліся зьмены ў сьвядомасьці шарагоўцаў, каб не разглядаўся прафсаюз толькі як крыніца забесьпячэньня дзяцей навагоднімі падарункамі, пуцёўкамі ў летнікі і базы адпачынку. Практыка паказвае, што якраз наадварот: прафсаюз неабходны дзеля абароны правоў работнікаў, дзеля забесьпячэньня ім наймальнікамі нармальных умоваў працы і своечасовай выплаты заробку. Парушэньні ў адносінах да нашых сяброў адбываюцца штодзённа. У нас не змаўкае тэлефон. Здавалася б, сталічны горад, высокі ўзровень адукацыі, і столькі парушэньняў працоўнага заканадаўства... У адміністрацыях навучальных установаў альбо не чытаюць законы, альбо дзейнічаюць насуперак заканадаўству. Гэта і незаконныя звальненьні, і вымовы. І вось тады людзі згадваюць, што ёсьць прафсаюз, які можа іх абараніць. Абарона законных правоў працоўных і ёсьць нашая самая галоўная функцыя. Калі гэта зразумеюць усе, зьменяцца адносіны да прафсаюзу.

***— Наколькі рэальна ў нашых умовах абараніць правы працоўных?***

— Правы ёсьць там, дзе за іх змагаюцца. Сёньня, назіраючы за нашымі працаўнікамі сферы адукацыі, можна заўважыць, што яны пачынаюць верыць у посьпех агульных намаганьняў. Зьяўляецца вера, што разам мы можам нешта зрабіць, паасобку – ніколі.

Мы можам бясконца доўга пісаць лісты і звароты ў розныя інстанцыі, друкаваць у прэсе артыкулы пра гаротны стан адукацыі, але пакуль большасьць людзей ня скажуць, што досыць існаваць на такую мізэрную зарплату, зьменаў ня будзе.

***— Ужо каторы год ідуць размовы пра паляпшэньне фінансаваньня адукацыі...***

— ...На жаль, яны так і застаюцца размовамі.У нас на зьездзе на пачатку красавіка прысутнічаў віцэ-прэм'ер РБ Уладзімір Замяталін. Шмат наабяцаў. Нават зьявіўся дакумент "Пратакол даручэньняў Савету Міністраў РБ па выніках III зьезду беларускага прафсаюзу работнікаў адукацыі і навукі". Згодна з гэтым пратаколам да 1 верасьня 2000 г. неабходна было ўвесьці каэфіцыент да тарыфнай стаўкі 1,4; павысіць на 20 адсоткаў заробкі маладым сьпецыялістам; зьменшыць працягласьць працоўнага часу работнікам дашкольных установаў; павысіць стыпендыі студэнтаў да 50 адсоткаў пражытачнага мінімуму; павысіць фонд прэміраваньня. Зараз ужо сьнежань — і нічога ня зроблена.

13 кастрычніка гг. на пашыраным прэзідыуме Мінскай гарадзкой арганізацыі была прынятая заява да Адміністрацыі прэзідэнта і Савету міністраў краіны з эканамічнымі патрабаваньнямі настаўнікаў. Чаго мы патрабуем?

Найперш выкананьня Закона Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 13.11.99 г.) і дзяржаўнай праграмы "Настаўнік", распрацаванай Міністэрствам адукацыі РБ і адобранай пастановай СМ РБ ад 27 лютага 1998 г. № 313.

Цытую Закон РБ "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь":

"*Артыкул 34.*

Педагагічныя работнікі маюць права на:

...гарантаваны ўзровень аплаты працы з рэгулярным карэктаваньнем у адпаведнасьці са зьменамі індэксу цэнаў і дыферэнтаваную аплату ў залежнасьці ад кваліфікацыі і вынікаў педагагічнай дзейнасьці. Сярэдняя стаўка заработнай платы педагагічных работнікаў устанаўліваецца не ніжэй за сярэднюю заработную плату служачых у прамысловасьці, а прафесарска-выкладчыцкага складу вышэйшых навучальных установаў – як мінімум у паўтары разы вышэй гэтага ўзроўню.

*Артыкул 37.*

...Пры гэтым разьвіцьцё сістэмы адукацыі РБ дзеля захаваньня і памнажэньня інтэлектуальнага патэнцыялу рэспублікі забяспечваецца дзяржаўным фінансаваньнем у памеры ня менш за 10 адсоткаў ад нацыянальнага даходу РБ з магчымасьцю павелічэньня за кошт звышпланавых сродкаў бюджэту".

Дзяржава – гэта ўсе мы, жыхары Беларусі. Дзяржаўны апарат – гэта

*(Працяг на стар. 7)*

# Ланцуг абразаў і беззаконьня

***У верасьні ў Мінску прайшоў фестываль сексменшасьцяў "Гей-прайд". На жаль, усё, што планавалі, арганізатары яго правесьці не змаглі. Беларускія ўлады занялі жорсткую пазіцыю да ўдзельнікаў фестывалю і большасьць мерапрыемстваў забаранілі. У беларускім друку, па зразумелых прычынах, тыя падзеі былі асьветленыя дужа скупа і няпоўна. Таму "ПнВ" прапануе сваім чытачам расповяд пра тое, як усё адбывалася, як беларускія ўлады змагаліся са сваімі грамадзянамі і іх гасьцямі.***

Фестываль "Гей-Прайд" прысьвячаўся двухгадоваму юбілею часопіса "Forum Lambda" – першага выданьня беларускіх геяў і лесьбіянак. Аднак чатырохдзённыя мерапрыемствы, безумоўна, цікавілі ня толькі прадстаўнікоў сексменшасьцяў. Адных вабілі вечарынкі з танцамі ў начных клубах, другіх – паказы мадэляў адзеньня маладых мадэльераў, трэціх – сьпектаклі, фільмы, фотавыставы... Арганізатары фэсту планавалі таксама і канцэрты беларускіх зорак (такіх як "Крыві" ды Іна Афанасьева), і замежных артыстаў. Акрамя адпачынку, фэст прадугледжваў некалькі асьветніцкіх семінараў на тэмы становішча геяў і лесьбіянак у краінах Еўропы, культуры сексуальных меншасьцяў, асьвятленьня гэтай тэматыкі на старонках прэсы і г.д. Нічога такога, што магло б расцэньвацца як "аплявуха грамадзкаму густу". У рэкламным буклеце фэстывалю нават былі пазнакі, на якія шоу (сьпектаклі ці кінапаказы) не дапускаюцца асобы да 18 гадоў. А ў склад журы "першынства" па мужчынскім стрыптызе і конкурсу прыгажосьці "Трансмісія" пагадзіліся ўвайсьці вядомыя беларускія сьпявачкі, дыджэі FM-станцыяў, актрысы, мадэльеры, журналісты... Сьвята для геяў і лесьбіянак і проста адпачынак – для ўсіх астатніх! Аднак гэта якраз і не атрымалася.

Першым быў забаронены фестывальны парад, які мусіў прайсьці па цэнтральных мінскіх вуліцах 10 верасьня. Шэсьце планавалася ад Опернага тэатру па вуліцы М.Багдановіча да плошчы Бангалор. Менавіта тут сталічныя ўлады апошнім часам дазваляюць праводзіць акцыі апазіцыі. Тым ня менш, у "Лямбдзе" і рэдакцыі "Форуму" не выключалі, што парад Мінскі гарвыканкам не дазволіць. На буклетах "Гей-прайду" загадзя было напісана, што шэсьце, а таксама і канцэрт на плошчы Бангалор "пройдуць у выпадку добрага надвор'я і дазволу гарадзкіх уладаў". Па словах кіраўніка прэс-службы фестывалю Ціны Клыкоўскай, з самага пачатку было вырашана нічога не рабіць насуперак магчымым забаронам. "Мы не хацелі б калечыць людзей, сваіх і замежнікаў, пад міліцэйскімі дубінкамі", — патлумачыла Ц.Клыкоўская.

Па планах арганізатараў прайшлі толькі прэс-канферэнцыя 7 верасьня, два кінапаказы і два семінары. У 22 гадзіны мноства людзей сабралася ў начным клубе "Аквaрыум". У чаканьні ўрачыстага адкрыцьця гледачы танчылі на дыскатэцы. Пасьля яе, прыкладна апоўначы, і "грымнуў гром". Спачатку кіраўнік лігі "Лямбда" Эдвард Тарлецкі і рэдактар часопісу "Форум" Ціна Клыкоўская зьвярнуліся да прысутных з жартоўнай прамовай галасамі Дзеда Мароза і Сьнягуркі. Потым артысты шоу-балету вывесілі ў зале вялізны сьцяг колераў вясёлкі – сусьветны сімвал сексменшасьцяў. Калі пачаўся наступны нумар праграмы, нечакана адключылася сьвятло ў зале. Некаторы час гледачы і ўдзельнікі думалі, што гэта звычайная "саўковая" паломка. Аднак сумненьні пачыналі ўжо закрадацца ў душы арганізатараў. Прыкладна за гадзіну да пачатку шоу адміністрацыя "Акварыуму" выгнала з залы ўсіх фотакарэспандэнтаў і тэлеаператараў. Дырэктар клубу Аляксандр Асмалоўскі папярэдзіў журналістаў, каб не казалі, што іх беспардонна выгналі: маўляў, "здымкі тут не практыкуюцца", бо ў начных клубах увогуле забаронена здымаць на фота і відэастужку. Аднак, як заявіла карэспандэнту "Права на волю" прэссакратарка фестывалю Ціна Клыкоўская, умовы здымкаў былі загадзя абумоўленыя арганізатарамі і адміністрацыяй клубу пры заключэньні дамовы.

Па выключэньні сьвятла ў зале некаторы час вядучыя шоу спрабавалі супакойваць і нават весяліць гледачоў – то ў суцэльнай цемры, то падсьвечваючы яе агеньчыкамі кішэнных запальнічак. Тым часам некалькі чалавек накіраваліся на "перамовы" з дырэктарам сп. Асмалоўскім. Той заявіў, што ў праграме вечару адбыліся зьмены, а сьвятло выключанае па волі адміністрацыі начнога клубу: яна быццам бы палічыла для сябе абразьлівым падняцьце на сцэне сьцягу сексуальных меншасьцяў. Да таго ж, сп. Асмалоўскі раней наіўна не ўяўляў, з кім зьвязваецца, і што за мерапрыемства адбудзецца ў "Акварыуме". Хоць і рэпэтыцыі шоу на тутэйшай сцэне ішлі, і той самы вясёлкавы сьцяг артысты тут ужо ўздымалі...

Злавіўшы дырэктара на хлусьні, арганізатары фэсту зразумелі, у чым справа. На зьдзіўленыя пытаньні замежных гасьцей — а гэта былі прадстаўнікі Швецыі, Расіі і Польшчы – так і адказалі: відавочна, умяшалася дзяржава. Эдвард Тарлецкі папрасіў шматлікіх гледачоў пакінуць "Акварыум". Пасьля гэтай просьбы, як ні дзіўна, адразу ўспыхнула сьвятло. На сыход з памяшканьня ўнутраная ахова клубу дала людзям дзесяць хвілінаў. Прысутныя ледзь пасьпявалі забраць свае рэчы, арганізатары, гнаныя ў сьпіну ахоўнікамі, зрывалі са сьценаў рэкламныя плакаты з назвамі спонсараў. А на вуліцы ўжо сабралася шмат міліцыянтаў. Яны не зьвярнулі ўвагі на тое, што сапсаваны настрой людзей тут жа паспрабавалі скарыстаць невядомыя маладзёны ў цывільным. Яны пачалі лаяць удзельнікаў фэсту бруднымі словамі, нібыта жадаючы справакаваць на бойку ці грубасьць у адказ. Праўда, на правакацыі ніхто не паддаўся (можа, менавіта дзякуючы вытрымцы Эдварда Тарлецкага і ягоных сяброў нікога не затрымала міліцыя). Каментары прысутных міліцыянтаў мелі характар абразаў і выгляд набору фразаў для замбаваньня электарату. Калі кіраўнік "Лямбды" пачаў даваць грошы на таксоўку тым з сяброў, хто далёка жыве, "ахоўнікі парадку" злосна і грэбліва ўзгадалі з такой нагоды і фонд Сораса, і Зянона Пазьняка, і ЦРУ: "Гэта грошы ад вашых галоўных педыкаў". Гэта самы мяккі жарт міліцыянтаў у тую ноч...

Праблемы працягваліся на наступны дзень, у пятніцу. Каля 12 гадзінаў, незадоўга да прэс-канферэнцыі, пачуўся званок з міліцыі ў офісе грамадзкай арганізацыі "Аб'яднаны Шлях", дзе месьціўся прэс-цэнтр "Гей-Прайду". Па тэлефоне было заяўлена, што плакаты, часопісы, іншая атрыбутыка фестывалю сексменшасьцяў мусяць быць прыбранымі з памяшканьня за дзесяць хвілінаў. Разам з арганізатарамі фестывалю, яго гасьцямі і задужа цікаўнымі журналістамі. У адваротным выпадку, заявіў голас у слухаў-



цы, неўзабаве прыбудзе група захопу і вынясе ўсіх сама. Ісьці на гэткія крайнасьці арганізатары не хацелі. Так фестываль пазбавіўся свайго арганізаванага інфармацыйнага цэнтру. З-за гэтага замежныя госьці нават пабаяліся праводзіць у той дзень свае семінары ў Доме культуры таварыства глухіх. "Мы прыехалі чытаць лекцыі, а не змагацца з беларускімі ўладамі", — заявілі яны. Між тым лекцыі польскага госьця, рэдактара некалькіх папулярных часопісаў, пра эратычную індустрыю ў Польшчы зацікавілі шмат студэнтаў, асабліва факультэтаў, зьвязаных з мастацтвам і псіхалогіяй. Інфармацыя пра разгром прэс-цэнтру ўжо абляцела асяродкі мінскіх журналістаў. У выніку ДК на вуліцы Уральскай быў поўны народу. Міліцыя не пускала людзей у будынак і дала загад арганізатарам: публіка павінна неадкладна разысьціся. Калі, вядома, арганізатарам шкада здароўя людзей, якія тут сабраліся... Не засталося нічога, як раздаць прысутным на памяць часопісы "Forum" і плакаты "Гей-Прайду" і папрасіць іх разыходзіцца. Усе гэтыя падзеі фіксаваліся на відэа людзьмі ў цывільным. "Я не адразу заўважыла, што каля ДК стаіць белы легкавік з маладымі людзьмі, адзін з якіх проста на нас з калегам накіраваў відэакамеру, — распавядае Ціна Клыкоўская. — Я наблізілася да машыны і запытала яе пасажыраў, хто яны такія. Калі прадстаўнікі дзяржбясьпекі, здымаць нас – іхняя праца. А можа, яны проста бандыты ці чарнасоценцы, стаўленьне якіх да геяў добра вядомае?" На яе пытаньне ніхто не адказаў: "хлопчыкі ў цывільным" не вымавілі ні слова, быццам яны з таварыства ня толькі глухіх, але і нямых.

Званкі з сілавых структураў у офіс "Аб'яднанага Шляху" працягваліся. Аднаму з кіраўнікоў арганізацыі Аліцыі Шыбіцкай прыгразілі разарваць кантракт на арэнду памяшканьня пад офіс. Элементам псіхалагічнага ціску можна назваць тое, што падчас тэлефанаваньняў з офісу "Аб'яднанага Шляху" на лініі пачала абрывацца сувязь. Гэткі "тэлефонны ціск" на няўгодных, – на жаль, прыкмета беларускай рэчаіснасьці на мяжы XXI стагодзьдзя.

Арганізатары фэсту трапілі ў інфармацыйную ізаляцыю. Яны вырашылі зьвярнуцца да дэмакратычных партыяў з просьбай дазволіць правесьці ў якой-небудзь штаб-кватэры прэс-канферэнцыю. Надзеі на дазвол было вельмі мала: усё ж у краіне перадвыбарчая сітуацыя, а адносіны беларускага грамадзтва да геяў – у асноўным адмоўныя. Выгнаньнікаў прытулілі ў сваім офісе беларускія сацыял-дэмакраты з БСДГ "Народная Грамада".

Надзеі на працяг фэсту паступова зьнікалі. Чарговым этапам стаў начны клуб "Рэактар". На конкурс "Трансмісія" квіткі коштам ад 3 да 5 даляраў былі даўно прададзеныя. Некалькі дзён запар арганізатары марна спрабавалі стэлефанавацца з дырэкцыяй "Рэактару". Сітуацыя складвалася няпэўная і цьмяная. Урэшце арт-дырэктар клубу А. Радзівілаў сказаў, што "Гей-Прайд" ударыць па прэстыжы клубу. У шчырасьць словаў сп.Радзівілава ніхто не паверыў. Прыйшоўшы ў пятніцу да памяшканьня клубу, удзельнікі і гледачы ўбачылі цёмныя вокны і зачыненыя дзьверы. З супрацоўнікаў забаўляльнай установы ўдалося адшукаць толькі адну жанчыну-афіцыянтку, паводле словаў якой, у клубе нікога няма па загадзе дырэктара. Нават вартаўніка, каб ніхто ня мог даваць інфармацыю пра забарону імпрэзы... Забягаючы наперад, дададзім, што тры дыскатэкі ў межах "Гей-Прайду" усё ж адбыліся ў адным з мінскіх начных клубаў, гаспадар якога вырашыў прадаставіць магчымасьць геям і іх гасьцям павесяліцца бясплатна. Там жа прайшло і закрыцьцё фестывалю – праўда, без падрыхтаванага канцэрту і паказу модаў. Памяшканьне клубу-"прытулку" для шоу проста не прыстасаванае.

У суботу пайшлі чуткі, што семінары замежных гасьцей фестывалю пераносяцца пад адкрытае неба і пройдуць у скверы каля кінатэатру "Зьмена". Цікаўныя сабраліся там і прыселі на траву. Выступалі Надзя Нартава, лідэр руху сексменшасьцяў з Санкт-Пецярбургу, і Біл Шылер, швецкі журналіст, кіраўнік культуралагічнай арганізацыі геяў і лесьбіянак. Прамовы пасьля забаронаў і забабонаў апошніх дзён гучалі вельмі эмацыйна. Узгадалі: сёньня 9 верасьня, дзень памяці ахвяраў фашысцкага генацыду. Надзя Нартава нагадала, што ў фашысцкіх канцлагерах геяў і лесьбіянак нават зьнішчалі асобна ад астатніх людзей. Вырашылі набыць кветкі і ўскласьці іх каля абеліску на плошчы Перамогі. Калі прадстаўнікі шасьці краінаў ускладалі кветкі і заадно тлумачылі сэнс акцыі мінакам, на плошчу апаратыўна прыбылі знаёмыя ўжо машыны з тымі самымі апаратамі ў цывільным.

У нядзелю разьвітальную прэс-канферэнцыю правадзілі зноў на вуліцы — каля помніка Максіму Багдановічу. Выбар месца лідэр "Лямбды" Эдвард Тарлецкі патлумачыў так: "Багдановіч – гэта сімвал беларускай нацыі, які загінуў ня столькі ад хваробаў, колькі ад неразуменьня яго большасьцю беларускага грамадзтва".

Замежныя госьці былі ўражаныя пабачаным у Беларусі. Усе ўдзельнікі разьехаліся з цяжарам у душы. Гледачы страцілі грошы, не пабачыўшы шоу-праграмаў, арганізатары панесьлі фінансавыя і маральныя страты. А тыя, хто ні да геяў, ні да фэсту ня мае ніякага дачыненьня, яшчэ раз адчулі: сёньня ўлада дабралася да гэтых людзей, заўтра яна плюне ў душу іншым, пасьлязаўтра ланцуг абразаў і беззаконьня дойдзе да цябе – да кожнага, хто, здавалася б, ні да чаго ня меў дачыненьня.

**Тацяна СЬНІТКО.**

***P.S.*** **Беларускія ўлады скарысталі фестываль сексменшасьцяў, каб яшчэ раз абылгаць і зьняважыць апазіцыю, якую назвалі па зразумелай толькі ім аналогіі – "палітычнай меншасьцю". Невядомыя апаратары, пра якіх гаворыць Ц.Клыкоўская, працавалі не дарэмна: літаральна праз некалькі дзён па Нацыянальным тэлебачаньні быў паказаны фільм, у якім шляхам паралельнага мантажу і накладаньня кадраў праводзіўся знак роўнасьці паміж прадстаўнікамі сексменшасьцяў і апазіцыйнымі лідэрамі, а ангельскія (ці галанскія, швецкія – розьніцы няма) геі хадзілі з бел-чырвона-белым сьцягам... Гэтым самым улады яшчэ раз яскрава выказалі сваё стаўленьне не да апазіцыі, вядома, а менавіта да сексменшасьцяў, як да ізгояў у нашым грамадзтве: таталітарызм, незалежна ад таго нямецкі ён, савецкі ці беларускі, мае заўсёды адзін твар...**

# Помста за "паклёп"?

***У Асіповічах (Магілёўская вобласьць) супрацоўнікі міліцыі зрабілі напад на журналістаў незалежнага рэгіянальнага выданьня "Панарама" з мэтай запалохаць і зьняважыць іх.***

12 сьнежня 2000 году ў г.Асіповічы ў прыватную кватэру па вул. Сумчанкі, 16 уварваліся міліцыянты, сярод якіх быў і пракурор Асіповіцкага раёну Сяргей Бабакоў. У гэты час у кватэры знаходзіліся Мікалай Тамашоў (рэдактар рэгіянальнай незалежнай грамадзка-палітычнай газеты "Панарама", якая выходзіць штомесяц накладам 295 асобнікаў) і Ігар Сімбіраў (адзін з аўтараў газеты "Панарама", які друкуецца пад псеўданімам Рыгор Латышэвіч, каардынатар праграмы "Каралеўства Беларусь"). Варта адзначыць, што кватэра па вул.Сумчанкі не зьяўлялася офісам газеты "Панарама", гэта ўласнасьць сябра І.Сімбірава, які на час сваёй адсутнасьці пакідае Сімбіраву ключы і дазваляе карыстацца кватэраю. Таму ў кватэры часова знаходзіўся кампутар (абсталяваньне USIA), на якім працаваў І.Сімбіраў.

Супрацоўнікі міліцыі пачалі вобыск. Прад'явілі ордэр, сказалі, што па факце надрукаванага ў газеце "паклёпу" узбуджаная крымінальная справа. Міліцыянты не ўдакладнялі: у якім артыкуле "Панарамы" быў знойдзены "паклёп". Па версіі І.Сімбірава, гэта можа быць матэрыял, які ўтрымлівае прамову кіраўніка адміністрацыі Асіповіцкага раёну сп.Шчэцькі на адным з мінскіх кірмашоў. Прамова была запісаная на дыктафон і передрукаваная ў газеце з каментаром рэдакцыі, што "чыноўнік павінен добра валодаць мовай".

Падчас вобыску супрацоўнікі міліцыі зьневажалі І.Сімбірава, называлі "клоўнам", а старэйшы лейтэнант Юры Грабін, заламіўшы І.Сімбіраву руку, разьбіў пераносьсе, вывіхнуў палец і пабіў гадзіньнік.

У выніку вобыску было праведзенае выняцьце больш за 100 дакументаў, у тым ліку і 51 аркуш, раздрукаваны з кампутара (апавяданьні). Пратакол выняцьця складалі не на месцы, а ў пракуратуры. Кватэру апячаталі. М.Тамашова і І.Сімбірава вывезьлі ў пракуратуру, дзе доўга дапытвалі. Супрацоўнікаў міліцыі цікавілі пытаньні: "Хто фінансуе газету "Панарама"? Адкуль кампутар?" І.Сімбіраў адмовіўся адказваць на пытаньні без прысутнасьці адваката.

**П. СЬЦЕПАНЕНКА.**

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар.1)

***4 сьнежня*** стала вядома, што ў Швецыі пачалася кампанія па зборы подпісаў пад зваротам да Аляксандра Лукашэнкі. Петыцыю, напісаную пасьля дэманстрацыі па Швецкім тэлебачаньні фільма Паула Шарамета “Дзікае паляваньне” (фільм быў паказаны 26 і 28 лістапада 2000 году) падпісалі 124 члены Швецкага парламенту. У сваім звароце швецкія парламентарыі выказалі занепакоенасьць лёсам людзей, якія зьніклі ў Беларусі ў перыяд з 7 траўня 1999 году па 7 ліпеня 2000: Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзьмітрыя Завадзкага... У петыцыі швецкія парламетарыі выказваюць спадзяваньне, што праўда пра зьніклых людзей будзе раскрытая і абнародаваная. Ліст будзе перададзены амбасадару Беларусі ў Швецыі, калі пад ім падпішацца 1000 чалавек. Кампанія па зборы подпісаў працягнецца да 19 сьнежня гг. Поўны тэкст петыцыі зьмешчаны на сайце:

**www.vitryssland.nu**

***5 сьнежня*** адбылося чарговае судовае паседжаньне Вышэйшага гаспадарчага суда РБ па зыску інстытута "Адкрытае грамадзтва" да падатковай інсьпекцыі Ленінскага раёну г. Мінску. Прычына судовага разьбіральніцтва — арышт друкарскага абсталяваньня выдавецтва "Мэджык". Гэтае абсталяваньне ў свой час належала Беларускаму фонду Сораса, які Вярхоўны гаспадарчы суд Беларусі ў 1997 годзе прызнаў даўжніком па падатках. Праз тры гады пасьля гэтага падатковая інсьпекцыя Ленінскага раёну арыштавала абсталяваньне "Мэджыка" нібыта ў кошт пагашэньня даўгоў фонду Сораса. Выдавецтва "Мэджык" адразу прадставіла дакументы, што абсталяваньне не належыць фонду Сораса. Спачатку яго на свой баланс прыняў інстытут "Адкрытае грамадзтва", а потым перадаў у арэнду выдавецтву. Нагадаем таксама, што асноўнай прычынай арышту абсталяваньня стала тое, што на ім друкуецца незалежная прэса Беларусі і менавіта тут быў канфіскаваны стотысячны наклад газеты "Рабочы" з матэрыяламі пра байкот выбараў у лукашэнкаўскі парламент... І гэтым разам судовае разьбіральніцтва было перанесенае. Вышэйшы гаспадарчы суд не прыняў ніякага рашэньня, бо "у зале суда адсутнічаў прадстаўнік Беларускага фонду Сораса". Але як ён мог прысутнічаць, калі беларускія ўлады забаранілі дзейнасьць у краіне фонду Сораса яшчэ ў 1997 годзе...

***5 сьнежня*** ў Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь адбыўся разгляд касацыйнай скаргі абаронцаў ***Міхаіла Чыгіра*** і касацыйнага пратэсту пракуратуры. Разглядала справу калегія Вярхоўнага суда РБ у складзе судзьдзяў Вярхоўнага суда Кашко, Корзуна і Чамрукова. Бок абвінавачаньня падтрымліваў пракурор Генпракуратуры РБ Юркевіч. Абарону прадстаўлялі адвакат Аляксандр Пыльчанка, Юлія Чыгір і прадстаўнік ГА ПЦ “Вясна” Барыс Гюнтэр. На разглядзе справы спачатку выступілі Міхаіл Чыгір і абаронцы, якія, абгрунтоўваючы свае доказы, прапанавалі Вярхоўнаму суду адмяніць прысуд Гарадзкога суда і спыніць крымінальную справу супраць М.Чыгіра ў сувязі з недаказанасьцю злачынства. Пракурор затрабаваў адправіць справу на новы разгляд у Гарадзкі суд. Але Вярхоўны суд улічыў заўвагі абароны і прыйшоў да высновы, што матэрыяламі справы віна М.Чыгіра не даказаная. Таму прысуд Гарадзкога суда быў адменены (за недаказанасьцю), а справа накіраваная ў Генеральную пракуратуру на дасьледваньне.

***5 сьнежня*** беларускія праваабаронцы выступілі з заявай, што маюць цьвёрды намер адзначыць Дзень правоў чалавека, і што 10 сьнежня ў цэнтры Мінску адбудзецца незвычайнае сьвяткаваньне. Папярэдне паведамлялася, што ГА ПЦ “Вясна” падаў заяўку на правядзеньне 10 сьнежня пікету ў Міхайлаўскім скверы сталіцы з нагоды Дня правоў чалавека, але Мінгарвыканкам не дазволіў правядзеньне мерапрыемства ў цэнтры гораду і, як звычайна, накіраваў арганізатараў на плошчу Бангалор. Праваабаронцаў не задаволіў адказ уладаў, і “Вясна” накіравала ў Мінгарвыканкам ліст, у якім адмовілася ад сьвяткаваньня гадавіны абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ў прызначаным месцы. У лісьце ГА ПЦ “Вясна” сказана: “Прычына адмовы ў тым, што рашэньне гарвыканкаму груба парушае артыкул 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнародныя пагадненьні. Пікетоўшчыкі накіроўваюцца на “сабачы выгул”, на якім страчваецца сам сэнс пікетаваньня, таму что “пікет”, згодна з Тлумачальным слоўнікам Беларускай літаратурнай мовы 1999 г., азначае: “Група асобаў, якія стаяць дзе-небудзь з мэтай дэманстрацыі грамадзянскага пратэсту, выражэньня якіх-небудзь патрабаваньняў (пікет забастоўшчыкаў, пікеты каля будынку парламенту)”. Адначасова праваабаронцы не адмовіліся ад ідэі адсьвяткаваць Дзень правоў чалавека належным чынам, таму вырашылі наладзіць у гэты дзень незвычайнае дзейства ў цэнтры Мінску.

***7 сьнежня*** суд г.Слуцку і Слуцкага раёну (Мінская вобласьць) разледзеў адміністратыўную справу вайсковага пенсіянера ***Аляксандра Катлярова,*** якога абвінавачвалі ў арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу 8 кастрычніка ў Слуцку (у межах агульнарэспубліканскага “Маршу Свабоды”). Судзьдзя Наталя Халадок вынесла рашэньне – штраф у памеры 150 мінімальных заробкаў. А. Катлярову пагражаюць канфіскацыяй маёмасьці ў тым выпадку, калі ён ня выплаціць штраф на працягу двух сутак. Гэта яўнае парушэньне закону, бо, згодна з арт. 286 КаАП РБ, штраф павінен быць выплачаны не пазьней за 15 дзён пасьля ўручэньня судовай пастановы. Апрача таго, згодна з арт. 287 КаАП, маёмасьць канфіскоўваюць толькі ў тых выпадках, калі асоба ня мае заработнай платы альбо пенсіі. Аляксандр Катляроў атрымлівае пенсію, таму накладзены штраф павінен быць вылічаны з ягонай пенсіі ў адпаведнасьці з правіламі, усталяванымі Грамадзянскім працэсуальным кодэксам РБ (па 20 адсоткаў штомесяц). А.Катляроў плануе абскардзіць судовае рашэньне ў Мінскім абласным судзе.

***9 сьнежня*** ў Брэсьце былі забароненыя чатыры з пяці пікетаў, прысьвечаных угодкам абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека (10 сьнежня). Усяго ў Брэсьце было пададзена пяць заявак на правядзеньне пікетаў у людных месцах гораду. Алег Дыдышка планаваў праводзіць пікет на вул. Леванеўскага, Уладзімір Вялічкін – на бульвары Т.Шаўчэнкі, Раіса Антанюк – Партызанскім праспекце, Рыгор Варвашэвіч — на вул.Будзённага. Але гарвыканкам адмовіў вышэйназваным заяўляльнікам. Уся справа ў тым, што на гэтых вуліцах бывае шмат людзей, якія ад пікетоўшчыкаў змогуць даведацца пра свае правы і нават атрымаць (а пасьля і прачытаць!) Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека на рускай і беларускай мовах. Гарадзкія ўлады прапанавалі чатыром заяўляльнікам далучыцца да Васіля Барболіна (арганізатара аднаго з пікетаў) і правесьці супольны пікет на стадыёне “Будаўнік”, дзе ня будзе каму раздаваць тэкст "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека". А.Дыдышка, У. Вялічкін, Р.Антанюк, Р.Варвашэвіч лічаць, што гарвыканкам парушае іх грамадзянскія правы, гарантаваныя арт.арт. 33, 35, 58 Канстытуцыі РБ, а таксама арт.19 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

***11 сьнежня*** на сядзібе БНФ “Адраджэньне” адбылася прэс-канферэнцыя, прысьвечаная вынікам акцыяў, праведзеных па ўсёй Беларусі 10 сьнежня, з нагоды абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. У прэс-канферэнцыі прынялі удзел праваабаронцы і ўдзельнікі грамадзкіх камісіяў па расьследваньні зьнікненьняў людзей у Беларусі.

***Напачатку сьнежня*** стала вядома, што спыніў галадоўку вязень Магілёўскага СІЗА Зьміцер Абадоўскі. Гэта ня першая ягоная спроба шляхам галадоўкі прыцягнуць увагу да сваёй асобы. Нагадаем, што Зьміцер Абадоўскі знаходзіцца пад вартай ужо 17 месяцаў, за якія абвінавачаньне так і дало доказаў ягонай віны ў згвалтаваньні. Незалежныя назіральнікі і бацька Зьміцера, вядомы магілёўскі праваабаронца Сяргей Абадоўскі, сьцьвярджаюць, што справа З.Абадоўскага ёсьць спроба паўплываць на пазіцыю С.Абадоўскага, які быў адным з арганізатараў леташніх альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбараў. Дарэчы, два гады таму пасьля перасьледу за ўдзел у акцыях апазіцыі быў вымушаны папрасіць палітычнага прытулку ў Польшчы другі сын С.Абадоўскага — Іван. Зьміцер Абадоўскі спыніў галадоўку пасьля таго, як пачаў рэзка губляць зрок і слых, і яго перавялі з карцэру ў звычайную камеру.

**Інфармацыйны аддзел ГА ПЦ «Вясна».**

# "Правы ёсьць там, дзе за іх змагаюцца..."

(Пачатак на стар.3)

чыноўнікі, якія павінны выконваць вызначаныя дзяржаўныя функцыі. Але закон не выконваецца. У бюджэце на 2001 год на адукацыю выдзелена менш, чым у папярэднім годзе на 0,1%, і ўсяго 5,9% ад дзяржаўнага бюджэту. Па закону павінна быць — 10%.

У бюджэце Беларусі на 2000 г. на праваахоўныя органы было запланавана 128 208 мільёнаў рублёў, а на сістэму адукацыі — 95 638 мільёнаў. У бюджэце на 2001 г. затраты на праваахоўныя органы павялічаныя да 280 мільярдаў рублёў, у той жа час на адукацыю будзе выдзелена — 200 мільярдаў. Але колькасьць людзей, занятых у той і другой сферы, непараўнальна розная.

Гэта ненармальна, калі сяржант міліцыі атрымлівае больш за прафесара універсітэту. Між тым, злачыннасьць у нашай краіне расьце. Тут і варта было б задумацца, ці правільна разьмяркоўваюцца бюджэтныя сродкі. Адукацыя і выхаваньне – гэта працяглы працэс, не адразу бачны вынік. Але калі мы зараз не ўсьвядомім згубнасьць шляху, па якім ідзем, дык цяжка будзе вярнуцца да нармальнага стану.

Возьмем дзяржаўную праграму "Настаўнік". Там запісана: "Забясьпечыць паэтапнае набліжэньне сярэднемесячнай заработнай платы педагагічных работнікаў да сярэднемесячнай заработнай платы работнікаў прамысловасьці, а прафесарска-выкладчыцкага складу ў 1,2 разы вышэй гэтага ўзроўню". Тэрмін выкананьня – да 2000 году. Год ужо заканчваецца, а дзяржпраграма зноў жа не выконваецца.

***— У прафсаюз уваходзяць ня толькі настаўнікі і выкладчыкі, але і тэхнічны персанал.***

— Заработная плата тэхнічных работнікаў зусім мізэрная. Напрыклад, повар у дзіцячым садку з 1-га кастрычніка мае аклад 11 тысячаў рублёў (10 даляраў ЗША). Праверкі сьведчаць, што нідзе ў садках пав振амі не захоўваюцца нормы закладкі прадуктаў. Чаму і дзеля чаго — зразумела. Дык ці ня доказ гэта таго, што сама дзяржава паставіла павароў у такое становішча: ім жа трэба жыць і карміць сем'і. Вы дайце нармальную зарплату — і яны ня будуць красьці прадукты. Што атрымліваецца? Дзяржаўны чыноўнік ставіць работніка ў такія ўмовы, што той вымушаны красьці, каб выжыць фізічна. З аднаго боку — кожны чыноўнік гэта разумее, з другога — не прымае ніякіх мераў, каб зьмяніць такое становішча.

***— Дык дзе ж выйсьце?..***

Культура і адукацыя – гэта духоўнае здароўе нацыі. Пры такіх адносінах да здароўя мы маем тое, што маем. Працэс адукацыі і выхаваньня працяглы, да таго ж акрамя часу ён патрабуе нямала сродкаў. Нам кажуць, што ў бюджэце няма большых сродкаў на адукацыю. Але гэта няпраўда. Трэба спыніць будаўніцтва непатрэбных аб'ектаў, правядзеньне розных сьвятаў і фэстаў, скараціць колькасьць розных кантралёраў – і тады знойдуцца грошы на адукацыю. Трэба думаць, як разьмяркоўваць бюджэт. Нельга бясконца вырашаць дзяржаўныя праблемы за кошт сферы адукацыі. Калі доўга сьціскаць пружыну, дык надыдзе час, калі яна выпрастаецца... Гэта відавочна. У мінулым навучальным годзе ў школы Мінска патрабавалася 140 маладых сьпецыялістаў, а на 1-га верасьня 2000 году – ужо больш за 1000. Гэта пры тым, што настаўнікамі працуюць пенсіянеры і студэнты. З БДУ сышло больш за 100 кандыдатаў навук і 20 дактароў навук. Гэта гаворыць пра тое, што ідзе адток сьпецыялістаў са школаў і ВНУ. Сітуацыя блізкая да крытычнай. І гэта ў сталіцы. А ў правінцыі яшчэ горш.

***— У Мінску ўжо некалькі тыдняў ідзе збор подпісаў пад заявай да ўладаў з патрабаваньнем зьвярнуць увагу на праблемы сістэмы адукацыі. Якія маеце вынікі?***

— У школьных і дашкольных установах людзі вельмі актыўна падпісваюцца пад заявай. Усяго ў Мінску падпісаліся каля 30 000 чалавек. У ВНУ актыўнасьць ніжэй. Там ёсьць небюджэтныя фонды, і таму матэрыяльны стан крыху лепшы. Акрамя таго, выкладчык можа падпрацаваць у недзяржаўнай ВНУ.

***— Паводле заявы, у выпадку невыкананьня заканадаўства да канца 2000 году вы пакідаеце за сабой права "абараняць інтарэсы ўсімі законнымі спосабамі і сродкамі". Якім чынам?***

— На лістах з подпісамі людзі робяць допісы, у якіх выказваюць гатоўнасьць да актыўнай абароны сваёй пазіцыі. Гэта мітынгі, забастоўкі. Людзі гатовыя выйсьці на вуліцы, пакінуць свае працоўныя месцы.

***— Якая, на Ваш погляд, будзе рэакцыя ўладаў на патрабаваньні работнікаў адукацыі і навукі?***

— Я на месцы ўладаў, атрымаўшы столькі подпісаў, моцна задумаўся б. І знайшоў бы выйсьце. Яшчэ год назад такая актыўнасьць была немагчымай, але зараз бачна, што гэта — мяжа. Цярпець далей людзі ня могуць. Каб неяк выжыць, большасьць працуе звыш стаўкі. А яшчэ хатняя падрыхтоўка, уласная сям'я... а ў сутках усяго 24 гадзіны. Перагрузка адбіваецца на агульным стане людзей. У горадзе ёсьць настаўнік фізкультуры, які мае тыднёвую нагрузку 104 гадзіны, або настаўнік музыкі — 51 гадзіну на тыдзень. Дык за што мы так караем людзей? Гэта катарга, а не стваральная праца. Ні ў адной галіне людзі столькі не працуюць.

У Артыкуле 42 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь запісана: "Асобам, якія працуюць па найме, гарантуецца справядлівая доля ўзнагароджаньня эканамічных вынікаў працы ў адпаведнасьці з яе колькасьцю, якасьцю і грамадскай значнасьцю, але не ніжэй узроўню, які забясьпечвае ім і іх сем'ям свабоднае і годнае існаваньне.

Дык якая тады "грамадзкая значнасьць настаўнікаў", калі нам так плоцяць за нашую працу? Тады трэба адкрыта сказаць: сістэма адукацыі нашай дзяржаве не патрэбная. Бясконца зьдзекавацца з людзей немагчыма. І таму, падкрэсліваю, мы гатовыя змагацца за свае правы ўсімі законнымі шляхамі.

**Гутарыла Леанарда МУХІНА.**



***6 сьнежня** адбылася сустрэча дэлегацыі Прафсаюзу работнікаў адукацыі і навукі, у склад якой уваходзілі старшыня прафсаюзу краіны Тамара Чобатава, старшыня Мінскай гарадзкой арганізацыі Анатоль Паўлаў, сябра ЦК прафсаюзу Наталя Мініна і інш., з прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Ярмошыным. У сустрэчы таксама ўдзельнічалі першы віцэ-прэм'ер А.Кабякоў, міністр адукацыі Ул.Стражаў, намесьнік міністра фінансаў І.Заяш і іншыя адказныя работнікі Савету міністраў Рэспублікі Беларусь.*

*На гэтай сустрэчы прэм'ер-міністру быў перададзены ліст ад імя Прэзідыуму ЦК прафсаюзу з асноўнымі патрабаваньнямі і 167 964 подпісаў пад ім работнікаў адукацыі і навукі, якія былі сабраныя па ўсёй краіне.*

# Зінаіда ГАНЧАР: "Я НЯ БАЧУ ВЫНІКАЎ СЬЛЕДЗТВА..."

***Жорсткае супрацьстаяньне рэжыму і апазіцыйных сілаў у мінулым годзе выклікала загадкавыя зьнікненьні дзеячаў апазіцыі — Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, бізьнесьмена Анатоля Красоўскага. Сьпіс выкрадзеных людзей сёлета ўлетку павялічыўся на яшчэ адно прозьвішча — журналіста Дзьмітрыя Завадзкага. Гэтая небясьпечная тэндэнцыя хвалюе грамадзкасьць, але больш за ўсё пакутуюць сем'і зьніклых. Карэспандэнт "Права на волю" Тацяна Рэвяка сустрэлася з жонкай Віктара Ганчара Зінаідай ГАНЧАР і папрасіла яе адказаць на некалькі пытаньняў.***




Зінаіда ГАНЧАР

***— Якой была вашая першая рэакцыя на зьнікненьне Віктара?***

— Быў шок. Нават у самым страшным сьне мне не магло прысьніцца тое, што здарылася, хаця механізм уціску быў уключаны даўно. Я думала – могуць пасадзіць ці яшчэ нешта, але што могуць выкрасьці – не чакала. Цяжка гэта перанёс сын.

Страшна ад таго, што ніхто не шукае выкрадзеных людзей. Нас імкнуцца прывучыць да думкі, што ўсё разьвіваецца так, як таго жадае гаспадар, і ты павінен да гэтага адаптавацца. І ў гэтай сітуацыі ў чалавека ўключаюцца нейкія абаронныя механізмы. Складаецца ўражаньне, што гэтым яны імкнуцца проста зламаць чалавека, зрабіць яго бясслоўным быдлам – маўчы, так трэба. Шкада, што сёньня гэтай сітуацыі імкнецца супрацьстаяць так мала людзей, бо заўтра "мачыць" будуць тых, хто сёньня маўчыць.

***— Ці адчулі вы падтрымку пасьля зьнікненьня Віктара, і ад каго?***

— У першую чаргу на гэтую праблему зьвярнулі ўвагу якраз міжнародныя структуры, а ад многіх сяброў і паплечнікаў, якія толькі ўчора прыходзілі да нас дахаты, дапамогі і падтрымкі, на якія я разьлічвала, так і не атрыма-ла. Я неаднаразова зьвярталася з просьбай напярэдадні пачатку перамоўнага працэсу апазіцыі і ўладаў у мінулым годзе прымусіць Лукашэнку выдаць зьніклых, і толькі потым пачынаць перамовы. Я лічыла, што пакуль не высьветлены лёс выкрадзеных людзей, сядаць з Лукашэнкам за стол перамоваў – проста амаральна.

***— Ідзе афіцыйнае расьследваньне зьнікненьня вашага мужа, узбуджаная крымінальная справа. Наколькі вы дасьведчаныя пра ягоны ход?***

— Сапраўды, справа аб выкраданьні мужа была заведзеная 20 верасьня 1999 году. Мне неаднаразова даводзілася даваць паказаньні і без пратаколу размаўляць са сьледчымі пракуратуры. У мяне склалася меркаваньне, што з-за моцнай залежнасьці ўсіх праваахоўных структураў ад аднаго чалавека на гэтых людзей аказваецца ўціск, і яны ня ў стане рабіць тое, што павінны і могуць зрабіць згодна са сваімі службовымі абавязкамі. Таму я ня бачу вынікаў сьледзтва, але тым ня менш я ўпэўненая, што ў пракуратуры працуюць добрыя сьпецыялісты, і як толькі адбудуцца нейкія зьмены сітуацыі ў краіне, усе злачынствы, зьвязаныя з выкраданьнем апазіцыйных палітыкаў і журналіста Завадзкага, будуць раскрытыя.

Я са свайго боку яшчэ раз хачу запэўніць, што я як і раней гатовая садзейнічаць сьледзтву ў раскрыцьці злачынства.

***— Першым зьнік Юры Захаранка. Вашыя сем'і сябравалі?***

— Юру я ведала ня вельмі добра. Ён бываў у нас некалькі разоў, а з ягонай жонкай мяне пазнаёміла толькі няшчасьце. Калі Захаранка зьнік, яна першаму патэлефанавала Ганчару. Ужо праз некаторы час я спытала ў Вольгі, чаму менавіта Віктару, бо ў Юры ж былі і больш блізкія сябры. Яна сказала, што толькі Віктар мог адгукнуцца і зрабіць рэальныя крокі, каб дапамагчы ў гэткай сітуацыі.

***— Сёлета ваш сын стаў студэнтам інстытуту правазнаўства. Ці былі ў яго нейкія праблемы пры паступленьні?***

— Не, не было. Як не было іх і ў школе. Мне здавалася, што першы час пасьля здарэньня настаўнікі былі нават больш паблажлівыя да яго, чым звычайна. На шчасьце, яму пашанцавала – яго акаляюць разумныя і прыстойныя людзі.

***— Прайшло ўжо больш за год... Калі было цяжэй за ўсё – адразу, праз месяц, паўгода ці зараз?***

— Зараз. Чым далей, тым цяжэй. Калі адразу думала, што хутка ўсё ўладзіцца, стане на свае месцы, то зараз усё цяжэй чакаць добрых навінаў. Жыву надзеяй, што вось-вось нарэшце ўсё павінна раскрыцца, што так проста ня можа працягвацца. Не хачу верыць, што нас могуць трымаць у невядомасьці яшчэ вельмі доўга. Думка, што Віктара няма жывым, проста не ўкладаецца ў маёй сьвядомасьці. Маці і родныя Віктара ў такой жа самай сітуацыі, як і я. Існуе шмат розных версіяў, але я заўсёды сыходжу з таго, што тыя, хто выкрадаў — таксама людзі. І якім бы ворагам ні абвяшчаўся чалавек, забіць яго, пераступіць гэтую мяжу для іх таксама – сьмяротны грэх. У іх жа сем'і, жонкі, дзеці, і дзеля чаго ісьці на такое? Што абараняць і ад каго?

***— Пасьля зьяўленьня Тамары Віньнікавай у грамадстве шырока распаўсюджвалася і распаўсюджваецца меркаваньне: маўляў, Ганчара і астатніх зьніклых, калі добра пашукаць, напэўна можна знайсьці ў адной з заходніх краінаў?***

— Няхай шукаюць! Я заўсёды кажу – шукайце. Я гэтага і патрабую. Таму што ведаю: такога ня можа быць, каб Віктар пакінуў нас з сынам і не падаваў пра сябе вестак столькі часу, калі гэта магчыма. У нас добрая сям'я, і такое проста выключанае. Мяне часам пытаюцца: можа, усё ж нейкая вестка была за гэты час? Калі б яна была, я ужо была б там, адкуль гэтая вестка прыйшла, усё роўна – з Захаду, Усходу, турмы, скляпеньня ці яшчэ адкуль. Гаварыць можна што заўгодна, але паспрабуйце сябе хоць на імгненьне паставіць на маё месца – і вельмі хутка ў вашым успрыманьні ўсё зьменіцца.

А што тычыцца Віньнікавай, я рада за яе: знайшоўся чалавек, і дзякуй Богу. Ня трэба на гэтым сьпекуляваць. Мя ня ведаем усіх абставінаў, але калі-небудзь мы даведаемся, што ж адбылося на самой справе.

***— Ці зьмянілася вашае ўспрыманьне жыцьця і людзей пасьля таго, што адбылося?***

— У маім жыцьці адбылося нешта падобнае на генеральную прыборку. Шмат што я выкрэсьліла з жыцьця. Гэта тычыцца і людзей, якіх я прымала ў сваім доме, але якія пасьля выкраданьня Віктара так ніводнага разу і не прыйшлі да мяне, не спыталі: як я жыву, якія праблемы, што можна параіць і чым дапамагчы. Так не павінна быць. Ня трэба забываць, што тое, што здарылася год назад з Ганчаром, можа здарыцца пры пэўных абставінах і з іншымі палітыкамі, у якіх таксама жонкі, дзеці, якія таксама як і я будуць чакаць падтрымкі.

Часта можна пачуць выраз: "Палітыка – справа брудная", але ў адносінах да Беларусі, згодна з нашымі рэаліямі, яго можна перафразаваць паіншаму: "Палітыка – справа небясьпечная".

Права на волю. Бюлетэнь Грамадскага аб'яднаньня "Праваабарончы цэнтр "Вясна". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ. Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с 49. E-mail:viasna@spring96.org www.spring96.org

У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву ГА ПЦ "Вясна"